www.nv-online.info

№ 83 (4028)

23 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ

*Беларускі ўрад склаў свае паўнамоцтвы. Так робіцца заўсёды пасля таго, як у краіне адбываюцца прэзідэнцкія выбары. Праўда, афіцыйнае складанне паўнамоцтваў Саветам міністраў – справа ў пэўным сэнсе фармальная. Бо прэзідэнт у нас не новы, а стары. Таму Аляксандр Лукашэнка адразу ж падпісаў указ, згодна з якім да фарміравання новага складу ўрада ўсе застаюцца на сваіх пасадах. Чакаецца, што новыя прызначэнні стануць вядомы бліжэй да даты інаўгурацыі, а яна яшчэ не прызначана. "Народная Воля" вырашыла звярнуцца да вядомых у краіне эканамістаў з пытаннем:*

# Каго вытураць з урада?

**Віктар МАРГЕЛАЎ,** сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва:

– Не хачу называць прозвішчы, але ў адстаўку можна адправіць многіх. Аднак праблема ў тым, што напачатку трэба вызначыцца з задачамі на будучыню. Калі жыць сённяшнім днём, то ўрад і ў гэтым складзе можа працаваць. Ён робіць тое, што яму сказалі. Але ж краіне трэба выпрацоўваць новую стратэгію выжывання, таму што па-старому жыць мы дакладна ўжо не зможам. І ўжо адсюль трэба, як кажуць, танчыць і вызначацца з кадрамі. А як будзе на самай справе? Мяркую, што амаль нікога ў адстаўку не адправяць, хоць, можа быць, і сам нехта папросіцца. Але рабіць тут канкрэтныя прагнозы не выпадае.

**Леанід ЗЛОТНІКАЎ,** кандыдат эканамічных навук:

– Як эканаміст, я не гляджу на тое, якія людзі будуць ва ўрадзе, бо яны там нічога не вырашаюць. Усё вырашае сам Лукашэнка.

**Вадзім ІОСУБ,** старшы аналітык кампаніі "Альпары":

– Па персаналіях мне дастаткова цяжка нешта сказаць, але ёсць адчуванне, што прынамсі ў эканамічным блоку вялікага пераструсу не будзе.

**Барыс ЖАЛІБА,** доктар эканамічных навук, прафесар:

– Улічваючы становішча беларускай эканомікі, якая сёння зайшла ў тупік, трэба мяняць увесь урад! І не толькі ўрад, а ўсю выканаўчую ўладу. У той жа час я бачу, што многія міністры прызначаны на свае пасады зусім нядаўна, таму не думаю, што іх будуць мяняць. Той жа прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў яшчэ год не адпрацаваў на гэтай пасадзе, у лістападзе 2014 года стаў міністрам фінансаў Уладзімір Амарын, у снежні 2014 года прызначаны міністр эканомікі Уладзімір Зіноўскі... А вось міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна, якую некаторыя называюць "самым антынародным міністрам", наадварот, у фаворы ва ўлады. Ёсць меркаванне, што яна можа пайсці толькі на павышэнне.

Наконт кандыдатаў на адстаўку сказаць складана. Калі дэмакратычная грамадскасць крытыкуе нейкую фігуру, то яе, наадварот, пакідаюць на месцы ці павышаюць. Маё меркаванне – сур'ёзных кадравых змен не будзе. Можа быць, проста ў чарговы раз патасуюць старую калоду.

**Яраслаў РАМАНЧУК,** кіраўнік Навукова-даследчага цэнтра Мізеса:

– Мяркую, што пакіне пасаду прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў. Трэба ж стварыць хаця б уражанне чагосьці новага. Міністр эканомікі, на мой погляд, таксама не на сваім месцы. А ўсіх астатніх абмяркоўваць няма асаблівага сэнсу. Гэта людзі-статысты, якія не аказваюць ніякага ўплыву на эканамічную палітыку, што праводзіцца. Хаця, думаю, кіраўнік Нацбанка і Мінфіна застануцца на сваіх пасадах, у сілавых структурах мы наогул не ведаем логіку кадравых перастановак. Самае галоўнае ва ўрадзе – эканамічны блок. Ад яго залежыць галоўнае.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШТО ХВАЛЮЕ...

# Калі на пенсію?

На нарадзе па актуальных пытаннях развіцця краіны Аляксандр Лукашэнка закрануў тэму павышэння пенсіённага ўзросту:

*«Я пра гэта гаварыў яшчэ ў перадвыбарны перыяд, што пенсіённы ўзрост давядзецца павышаць. Нам трэба яго павышаць, але людзі гэтага не хочуць".*

На яго думку, у любым выпадку пытанне павышэння пенсіённага ўзросту можа *«вырашацца праз людзей»*. *«Мы павінны параіцца з імі, будзем іх пераконваць, прасіць іх згоды»*, – сказаў Аляксандр Лукашэнка. *«Мы папросім у іх падтрымкі*, – сказаў ён. – *Пагодзяцца – правядзём змяненні. Не – значыць, не»*.

*«Мы ўсюды пішам – дзяржава для народа. Дык давайце слухаць народ»*, – рэзюмаваў Аляксандр Лукашэнка.

І першы "голас народа" не прымусіў сябе чакаць.



Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына заявіла: *"Я адназначна скажу, як просты грамадзянін, што пенсіённы ўзрост трэба павышаць жанчынам. Цяперашнія жанчыны ў 55 гадоў яшчэ замуж гатовы выйсці і шмат разоў выходзяць. Напэўна, ранавата яшчэ на пенсію"*.

Што скажаце вы, паважаныя чытачы?

SOS!

## Горад-банкрут?

Кіраўнік Лідскага райвыканкама **Міхаіл Карповіч** падчас сустрэчы з працаўнікамі аўтазборачнага прадпрыемства "Нёман" агучыў сенсацыйныя лічбы па зборы падаткаў у горадзе.

Паводле яго слоў, сёлета іх выплачваюць толькі піўзавод (гэта больш за 300 мільярдаў рублёў) ды нешматлікія прадпрымальнікі. Прычым нагадаем, што лідскі бровар ужо сем год належыць фінскай фірме Olvi PLC. Іншымі словамі, чыноўнік фактычна пацвердзіў, што адзін з буйных прамысловых цэнтраў краіны стаў горадам-банкрутам.

НАПЯРЭДАДНІ

## На «Дзяды» ў Мінску пададзены заяўкі на дзве акцыі

Вулічныя акцыі, прымеркаваныя да Дня памяці продкаў «Дзяды», павінны адбыцца 1 і 8 лістапада. Заяўкі на гэтыя дні ў Мінгарвыканкам і Мінаблвыканкам падала Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя – БНФ.

1 лістапада плануецца правесці шэсце па мінскіх вуліцах, а таксама зладзіць мітынг ва ўрочышчы Курапаты – на месцы масавага пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

8 лістапада плануецца правесці шэсце і мітынг у Лошыцкім яры ў памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

Пра дакладны час збору і маршрут шэсця арганізатары не паведамляюць. Звесткі пра гэта, згодна з законам, можна абнародаваць толькі пасля атрымання дазволу на акцыю ад чыноўнікаў. Хутчэй за ўсё, адказ будзе вядомы на наступным тыдні.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Яны абралі Еўропу

За год амаль 80,5 тысячы беларусаў афіцыйна сталі жыхарамі краін Еўрасаюза, атрымаўшы від на жыхарства ў ЕС.

Паказальна, што ўкраінцы ў мінулым годзе атрымлівалі від на жыхарства пераважна па працы, расіяне – па сямейных абставінах, а беларусы – «па іншых прычынах» (у іх спіс не ўваходзяць адукацыйныя праграмы).

Амаль 92% дазволаў (74.000) беларусам выдала Польшча. Гэта пятая частка ўсіх відаў на жыхарства, выдадзеных нашай краінай-суседкай з Еўрасаюза.

ПАСЛЯСЛОЎЕ

# Дзе працуюць урачы, якія зарабляюць амаль 10 мільёнаў?

*"На сённяшні дзень сярэдняя заработная плата ў доктара 9 мільёнаў 800 тысяч рублёў. Так, гэта з улікам сумяшчэння», – заявіў днямі міністр аховы здароўя Васілій Жарко.*

Але дзе працуюць урачы, якія маюць такія зарплаты?

Праўда, трэба адзначыць, што агучаныя міністрам лічбы і дадзеныя Белстата па жнівеньскіх зарплатах (вераснёўскія пакуль не агучваліся) крыху адрозніваюцца. Міністр называе 9,8 мільёна, Белстат кажа пра сярэдні заробак урачоў у жніўні 9,029 мільёна. *"І гэта намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата, без вылікаў падаткаў*, – удакладняюць ва Упраўленні статыстыкі працы Нацстата Беларусі. – *На рукі работнікі атрымліваюць меншыя сумы"*.

...Неўролагі і кардыёлагі мінскай Бальніцы хуткай дапамогі кажуць, што зарабляюць 6–7 мільёнаў. І гэта ўрачы інсультных, кардыялагічных аддзяленняў, куды вязуць складаных хворых. Прычым такі заробак атрымлівае ўрач вышэйшай катэгорыі, які працуе на 1,5 стаўкі, вядзе 20 хворых і мае чатыры начныя дзяжурствы на месяц.

Складана паверыць, але ў рэспубліканскіх навукова-практычных цэнтрах у некаторых спецыялістаў тэрапеўтычнага профілю заробкі яшчэ меншыя. *"За верасень атрымала крыху больш за 5 мільёнаў*, – прызнаецца кандыдат навук са сталічнага РНПЦ неўралогіі. – *На такім узроўні зарплата захоўваецца ўжо некалькі месяцаў. З чаго складаецца? Стаж, аклад, даплата за навуковае званне і ступень, лячэбная нагрузка, платныя прыёмы"*.

Ёсць меркаванне, што ў раёнах урачы маюць большыя зарплаты, чым сталічныя медыкі. Маўляў, там даплачваюць за інтэнсіўнасць, экстранныя выклікі...

Тэлефаную ў ЦРБ Мінскай вобласці. Педыятр першай катэгорыі з 20-гадовым стажам расказвае:

– *9 мільёнаў я не атрымліваю нават гразнымі, а на рукі выходзіць у лепшым выпадку 7,6 мільёна. Працую на 1,5 стаўкі. Мяркую, што каля 9 мільёнаў зарабляюць участковыя тэрапеўты і педыятры з раённай палiклінікі. Але ж яны і працуюць па 10–12 гадзін у суткі. Пасля асноўнай працы, як правіла, бяруць падпрацоўку на вёсках, калі атрымліваецца – начныя дзяжурствы ў бальніцы. Чыя праца больш-менш ацэнена – хірургаў, якія выконваюць высокатэхналагічныя ўмяшальніцтвы. Іх зарплаты ў месяц вагаюцца ў межах 12–14 мільёнаў. Анестэзіёлагі таксама столькі зарабляюць.*

Праўда, як адзначае ўрач, з больш як 40 працуючых у бальніцы ўрачоў хірургаў і анестэзіёлагаў толькі 10. Таму сярэдняя зарплата ўрачоў па бальніцы будзе не 9,8 мільёна, як казаў міністр, а прыблізна 8,7 мільёна.

– *Прэзідэнцкі ўказ, паводле якога павялічаны заробкі тым, хто выконвае складаныя, высокатэхналагічныя аперацыі, дазваляе хірургам мець больш-менш нармальную зарплату*, – заўважае вядомы сасудзісты хірург, прафесар, загадчык кафедры пластычнай хірургіі БелМАПА **Уладзімір Падгайскі.** – *Мае калегі, хірургі Рэспубліканскага цэнтра пластычнай і рэканструктыўнай мікрахірургіі Мінскай абласной бальніцы, зарабляюць, думаю, мільёнаў 15. Вядома ж, гэта з катэгорыяй, стажам, дзяжурствамі і гэтак далей.*

Трэба адзначыць, што некаторыя ўнікальныя аперацыі могуць выконваць спецыялісты толькі гэтага рэспубліканскага цэнтра. Не менш складаныя ўмяшальніцтвы, толькі ў сваёй вобласці, праводзяць нейрахірургі, хірургі-трансплантолагі, хірургі-кардыёлагі і гэтак далей.

Сёння ў РНПЦ кардыялогіі сярэдняя зарплата па цэнтры – 11,5 мільёна.

– *Дасягаем такіх лічбаў за кошт высокіх тэхналогій*, – заўважае дырэктар РНПЦ **Аляксандр Мрочак**. – *Хірургаў, якія выконваюць такія ўмяшальніцтвы, кардыёлагаў, якія потым выходжваюць такіх пацыентаў, у нас многа. Сярэднямесячны заробак хірургаў – 15,8 мільёна, урачоў тэрапеўтычных аддзяленняў – 8–9. Ці задаволены ўрачы? Скажу так: усім хочацца большага, але ў нашым цэнтры на заробкі ніхто не скардзіцца...*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

У СОСЕДЕЙ

# Ожидание больших перемен

*25 октября в Польше состоятся парламентские выборы.*





К ним приковано внимание не только соседей Польши, но и всей Европы. В мае в Польше уже состоялись выборы – президентские. На них неожиданно победил Анджей Дуда – кандидат от консервативной партии «Право и Справедливость» (ПиС).

До этого власть в стране долгое время принадлежала правоцентристам из «Гражданской платформы» (ГП) – президентом был представитель ГП Бронислав Коморовский, правительство с 2007 года возглавляют политики от ГП (сперва Дональд Туск, затем Эва Копач). В парламенте также была устойчивая коалиция, образованная ГП и Польской народной партией (ПНП). Последняя – умеренная христианско-демократическая сила, которая, в частности, активно защищала интересы сельхозсектора.

Победа Дуды ознаменовала начало перемен в Польше и стала тревожным сигналом для многих в Европе. Ведь этот политик до выборов занимал евроскептическую позицию – хотя и не столь радикальную, как европейские крайние правые вроде Марин Ле Пен (французский «Национальный фронт»).

В частности, новый президент выступил за возврат странам-членам части полномочий, ранее переданных Евросоюзу. Дуда открыто высказывался против квотного перераспределения мигрантов между странами-членами ЕС, называя недопустимым «навязывание (Брюсселем) решений, противоречащих национальным интересам».

Влияние президента в Польше небольшое, оно является ключевым лишь в вопросах обороны и международных отношений. А чтобы получить реальную власть, «Право и Справедливость» должна выигрывать парламентские выборы.

Но лидер партии Ярослав Качиньский в Польше имеет слишком большой отрицательный рейтинг, больше антирейтинга партии. Именно поэтому Качиньский выдвинул на президентскую гонку малоизвестного Дуду, да и на парламентских не стал возглавлять партийный список. А поскольку президент должен быть беспартийным, на парламентские выборы пришлось искать нового публичного лидера. Первым номером списка ПиС стала Беата Шидло – именно она, скорее всего, станет премьером в случае победы партии в борьбе за эту должность.

Социологи говорят, что ПиС является лидером гонки и набирает 33–36%. «Гражданская платформа» может рассчитывать на 22–25%.

Но первое место – еще не повод праздновать победу. Выиграв выборы, ПиС еще может проиграть в борьбе за кресло премьера.

Не исключено, что партия Дуды–Шидло не сможет самостоятельно получить большинство мандатов, в этом случае для контроля над правительством она должна создать коалицию. Так что Беате Шидло предстоит серьезное соперничество с Эвой Копач.

А пока в ряде городов Польши прошли антимигрантские акции протеста, организованные ультраправыми движениями.

В небольшом городе Катовице, расположенном на юге страны, на демонстрацию под антимигрантскими и антиисламскими лозунгами вышли три тысячи человек. На манифестацию на Замковой площади в Варшаве собралось около тысячи сторонников ультраправой идеологии.

Накануне оппозиционная партия "Закон и справедливость" подвергла резкой критике решение правительства Польши принять пять тысяч беженцев. Премьер-министр Польши Эва Копач, возглавляющая партию "Гражданская платформа", ранее выразила готовность расширить участие Варшавы в разрешении миграционной проблемы ЕС.

По данным одного из последних соцопросов, 56% жителей Польши выступают против размещения в стране беженцев с Ближнего Востока и из Африки. Высказывания президента Анджея Дуды находят поддержку.

**Сергей ИВАНОВ.**

НАДВОР'Е

## У сталіцы яшчэ восень, а ў Магілёве ўжо зіма

На гэтым тыдні ў Магілёве ўжо ішоў снег. У асобных раёнах вобласці ўтварыўся снежны кілім вышынёй да 1 сантыметра.

Сёння, 23 кастрычніка, умовы надвор'я будзе вызначаць вобласць паніжанага атмасфернага ціску, днём адаб'ецца ўплыў франтальнага падзелу, які змяшчаецца з Заходняй Еўропы. Захаваецца пахмурнае надвор'е. Раніцай і днём – невялікія дажджы, месцамі туман. Вецер паўднёвы, умераны. Тэмпература паветра днём +5...+11°С. Атмасферны ціск будзе падаць.

24 кастрычніка чакаецца перамяшчэнне франтальнага раздзелу праз тэрыторыю краіны з захаду на ўсход. Ноччу і раніцай на большай частцы, днём месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы +3...+9°С, днём +7...+12°С.

У нядзелю надвор'е ў асноўным будзе вызначаць вобласць павышанага атмасфернага ціску, сфарміраваная вільготнай паветранай масай. У асобных раёнах чакаюцца невялікія кароткачасовыя дажджы, туман. Тэмпература паветра ўначы 0...+7°С, днём +7...+12°С.

ЗАКУЛИСЬЕ

## Курманбек БАКИЕВ:

# «Лукашенко был в восторге, когда моя дочка читала ему поэму на белорусском языке»

*Как часто президент Кыргызстана общается с Александром Лукашенко? На какие средства он живет в нашей стране? Зачем его дети и внуки изучают белорусский язык?*

Курманбек Бакиев заговорил после долгого молчания.

Повод для встречи с журналистами у бывшего президента Кыргызстана был уважительный – в Москве вышла его книга «Боль, любовь и надежда: мой Кыргызстан» (на русском и киргизском языках). В ней беглый президент излагает свою биографию и оправдывает собственную политику. Но белорусов в первую очередь интересовали подробности жизни Бакиева в нашей стране.

Чем сейчас занимается Бакиев? «*В последнее время больше детьми, внуками. Моя дочка учится в гимназии в 9-м классе. Прекрасно говорит на белорусском и английском языках. Когда она написал работу по белорусскому языку на десять, родители других учеников не поверили. Она учится всего год – и так написала! Проверили ее работу и успокоились*».

Также Бакиев занимается спортом (каждый день, кроме воскресенья), много читает, ездит по стране и якобы знакомится с простыми людьми.

Если Бакиев нигде не работает, то на какие деньги он живет?

«*Я 30 лет работал руководителем*, – говорит экс-президент. – *Однажды в Беларуси один товарищ посмотрел мой партийный билет и увидел сумму партийных взносов: по 400–500 рублей. «Это вы столько зарабатывали?» – спросил он. Тогда я был всего лишь директором завода, мне было 35 лет. Потом являлся губернатором, премьер-министром, президентом*». Бакиев утверждает, что за эти годы смог заработать деньги на скромную жизнь. В Кыргызстане, кстати, не сомневаются, что хватает даже не на скромную. Вот только законность этих капиталов ставится под сомнение.

Некоторое время назад в «Народной Воле» появилась информация: Бакиев строит себе коттедж на улице Вилейской (рядом с элитным районом «Дрозды»). Экс-президент подтвердил эту информацию и признался, что живет недалеко от Александра Лукашенко. Но заметил: «*С Александром Григорьевичем мы общаемся редко. Я не тот человек, который злоупотребляет дружбой*». Бакиев с пониманием относится к занятости белорусского лидера, но признается: «*Летом, весной, бывает, встретимся. Больше стараемся говорить о детях, внуках, нежели о политике. Можем обменяться мнением по каким-то международным делам*».

К белорусскому языку Бакиев демонстрирует самое уважительное отношение: «*С первых дней я сказал детям: «Учите белорусский»*. Успехи были несомненные: «*Александр Лукашенко был в восторге, когда моя дочка читала поэму на белорусском языке*». «*Если живешь в стране, надо уважать и знать ее язык*», – говорит экс-президент. И добавляет о себе: «*Первое время старался смотреть белорусские новости. Улавливал 50–60 процентов слов. Сейчас уже 80. А говорить мне по-белорусски незачем. У вас все говорят на русском. По-белорусски только в отдельных деревнях, но там мне все понятно*».

Некоторое время назад в Минске видели человека, похожего на Максима Бакиева, сына экс-президента. Но эту информацию его отец опровергает. По его словам, Максим Бакиев живет в Лондоне: «*Он в Минск не приезжал и не собирается приезжать*». Что касается младших детей, то Курманбек Бакиев связывает их будущее с Беларусью. «*Они практически не представляют себе жизни в другой стране*», – говори он.

Напомним, что Кыргызстан настойчиво требует выдачи беглого президента. Однако он уже получил белорусское гражданство, поэтому не может быть выдан другой стране.

**Максим ПЛОТНИКОВ.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

# Не чихать на простуду

Осень – пора простуд и плохого самочувствия. Медики утверждают, что в это время вирусными инфекциями мы болеем в два раза чаще обычного.

**Откуда появляется простуда?**

**Как отличить простуду от гриппа?**

**Как обезопасить себя от вирусов осенью?**

**Стоит ли прививаться от гриппа?**

**Что делать, если все-таки заболел?**

На эти и другие вопросы на «Прямой линии» ответит заведующая терапевтическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ», врач 1-й категории **Людмила Андреевна ГУЛЕВИЧ.**



Звоните **27 октября с 15.30 до 16.30 по телефону 328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

